ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 13 (160) 29 сакавіка — 4 красавіка 1996 г. Кошт свабодны



ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## У БАРАЦЬБЕ ПАМІЖ ДОМАШАМ і КАШАНКОВАЙ ПЕРАМОГ...КАРПУЦЬ!

**26 сакавіка аднавіла сваю працу сесія абласнога Савету. У зацятай барацьбе за крэсла старшыні Савету паміж Сямёнам Домашам і Ліліяй Кашанковай пераможцам выйшаў... Аркадзь Карпуць.**

Галоўным пытаньнем у кулуарах гарадзенскага парламанту напярэдадні пачатку сесіі было: ці змогуць дамовіцца паміж сабой Домаш і Дубко? Напярэдадні, 19 сакавіка, два туры галасаваньня так і ня выявілі пераможцу ў спрэчцы Сямёна Домаша і Лілії Кашанковай, якую многія дэпутаты ўспрымаюць як стаўленіцу прэзідэнцкай вертыкалі. Абодва кандыдаты тады набралі аднолькавую колькасьць галасоў, што і выклікала перанос сесіі на 26 сакавіка. Дэпутаты разьлічвалі, што ўлады вырашаць узьнікшы крызіс паміж сабой... Не атрымалася.

Пасьля таго, як наноў вылучаная фракцыяй аграрнікаў Лілія Кашанкова заявіла, што «будзе ісьці да канца», слова ўзяў другі кандыдат на пасаду Старшыні аблсавету - Сямён Домаш:

*«... Ужо не зьяўляецца сакрэтам, што ўсе сілы вертыкалі ў нашай вобласьці кінуты на тое, каб не дапусьціць абраньне мяне на пасаду Старшыні аблсавету.*

*Прычына абвешчанага мне супрацьдзеяньня складаецца ў тым, што я як дэпутат Вярхоўнага Савету паводжу сябе «няправільна» і не галасую за ўсе прапановы прэзідэнцкай каманды. Гэта сапраўды мае месца. Але я заўсёды падкрэсьліваў, што буду падтрымліваць прэзідэнта ў яго намаганьнях па вываду рэспублікі з крызісу, толькі ў дзеяньнях, заснаваных на Законе...*

(Працяг на стар. 3)

## ЯК У РАСЕЮ ДУБІНКАМІ ЗАГАНЯЛІ

**Менск. 24 сакавіка. Больш за 50 тысяч беларусаў выйшла на вуліцы сталіцы, каб адсьвяткаваць 78-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі. Але ня толькі сьвята стала прычынай гэтаму. Здрадніцкая палітыка Лукашэнкі, які падманам захапіў уладу і які ненавідзіць Беларусь і беларусаў - вось асноўнае, што вывела людзей на вуліцы.**

### БЕЛАРУСКАЯ ПАВОДКА

Дарэмна стараліся тысячы міліцыянтаў выканаць загад свайго гаспадара. Людзей пачыналі біць пры спробе прайсьці на плошчу Незалежнасьці. Сябра Народнага Фронту Віталь Рымашэўскі быў арыштаваны яшчэ да пачатку акцыі. Але гаспадаром на праспекце Скарыны ў гэты дзень стаў нават не Беларускі Народны Фронт, а Беларускі Народ. Людзкая плынь, як веснавая паводка, падняла і панесла за сабой некалькі міліцэйскіх заслонаў. Аб колькасьці людзей можна меркаваць хаця б па такому факту: калі галава калоны дайшла да Опернага тэатру, хвост быў яшчэ каля Дома афіцэраў.



### РАШУЧАЕ «НЕ» ЗДРАДЗЕ

- З таго часу, як будзе падпісаны саюзны дагавор з Расеяй, Лукашэнка перастае быць прэзідэнтам... Ён будзе падлягаць суду згодна з законам і Канстытуцыяй Беларусі, - заявіў у сваім выступе на мітынгу Зянон Пазьняк.

- Мы за Расею Сахарава і Кавалёва. Але супраць Расеі чырвона-карычневай, - адзначыў Васіль Быкаў.

Кульмінацыяй мітынгу быў збор грошай на білет Лукашэнку да Магадану. Калі паявіліся першыя мяшкі сторублёвак, вядучы Сяргей Навумчык вымушаны быў прасіць спыніць збор, каб, ня дай Божа, на зваротную дарогу не назьбіраць.

Сярод выступоўцаў былі дэпутаты Г.Карпенка, П.Знавец, С.Багданкевіч, А.Дабравольскі, паэт Н.Гілевіч, дэпутат польскага Сейма К.Круль. Прыведзеныя імі аргументы сьведчылі пра тое, што праводзімая Лукашэнкам палітыка здачы суверэнітэту Беларусі - гэта шлях у нікуды. Ён нясе беларускаму народу яшчэ большыя голад і галечу. Больш таго. Нягледзячы на шматлікія абяцаньні Лукашэнкі (колькі іх ужо было!), у выніку «інтэграцыйных працэсаў» Беларусь стане пастаўшчыком «гарматнага мяса» для «усмирения» Чачні, Абхазіі і Таджыкістану, пераўтворыцца «в передний рубеж обороны Москвы» з усімі вынікаючымі наступствамі. Як альтэрнатыва такому разьвіцьцю падзей прапаноўвалася палітыка незалежнасьці, без'ядзернасьці, нейтральнасьці. Палітыка інтэграцыі з Захадам, палітыка ўваходжаньня ў структуры Аб'яднанай Эўропы.

### ЗЬВЯРЫНЫ АСКАЛ РЭЖЫМУ

Пасьля прыняцьця Заявы, у якой рэзка асуджалася палітыка дзяржаўнай здрады, мітынг таксама адзінагалосна вырашыў запатрабаваць ад кіраўніцтва тэлерадыёкампаніі прамога эфіру для лідараў апазіцыі. Прасіць аб гэтым спадара Кіселя пайшлі ўсе разам.

Але спадар Кісель зьнік. Замест яго шэсьце сустрэлі плотныя шэрагі міліцыі, унутраных войскаў, «сьпецназу». Было відавочна, што рэжым Лукашэнкі ад сваіх прынцыпаў - «стаўка на сілу» і «не даваць слова апазіцыі» - не адмаўляецца. Праз кожныя некалькі хвілін для «абароны» будынку тэлецэнтра прыбывалі ўсё новыя і новыя падмацаваньні. «Набраўшы крытычную масу» узброеныя сьпецназаўцы рушылі на людзей...

Дзікае і непрыстойнае відовішча. Вось двухмятровы гарыла, інакш і ня скажаш, з перакошаным тварам б'е дубінкай па галаве кабету, якая па ўзросту можа быць ягонай маці. Вось панеслі юнака - на галаве кроў... Але самае вялікае ўражаньне: сарваўшы з галавы шлем, кінуўшы шчыт адзін з нападаўшых, заплакаў і, закрыўшы твар далонямі, пайшоў прэч. Ня здолеў біць людзей, не захацеў... Дзякуй табе, невядомы дружа...

Самае страшнае было пасьля таго, як людзі пачалі разыходзіцца. Даволі вялікая група - тысячы тры - рушыла на вакзал, бо на мітынгу прысутнічалі людзі ня толькі з Менску. На паўдарозе ў раёне будынка КДБ, удзельнікаў мітынгу сустрэў спецназ. Моўчкі, без папярэджаньняў, пайшлі яны з дубінкамі насустрач. Пасьля іх на асфальце заставаліся акрываўленыя людзі. Многія з іх ня мелі ніякіх адносін да мітынгу. Ратаваліся ўцёкамі. Але былі і такія, хто, як мог, абараняў сябе і свой гонар.

### АЛЯКСАНДР РЫГОРАВІЧ, ГЭТА ТОЛЬКІ ПАЧАТАК!

Зроблена ўсё, каб запалохаць людзей. Але ўжо ёсьць адна бясспрэчная выснова з таго, што адбылося. Беларусы будуць супраціўляцца лукашэнкаўскай авантуры ўсімі магчымымі сродкамі. Ёсьць людзі, для якіх словы Гонар, Айчына, Свой Дом - ня пустыя. І ня дай Бог, калі сваімі правакацыямі Аляксандр Рыгоравіч змусіць гэтых людзей успомніць польскі досьвед. Той самы, калі пасьля жорсткага зьбіцьця рабочых дэманстрацыяў, палякі пачалі хадзіць на антыкамуністычныя мітынгі з манціроўкамі і куксамі арматуры.

**Мікола ТУРАВЕЦ.**
**Фотарэпартаж Н.МАЛІНОЎСКАЙ і М.ЛЕМАНОЎСКАГА.**

**P.S. Калі гэты артыкул быў падрыхтаваны да друку, паступіла інфармацыя, што нацыянальна-вызвольныя сілы 2 красавіка - у дзень мяркуемага падпісаньня так званага саюзнага дагавору - у 17 гадзін плануюць правядзеньне на плошчы Незалежнасьці ў Менску масавага пікету пратэсту.**















# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## РЭЗАЛЮЦЫЯ МІТЫНГУ ГРАМАДЗЯН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ З НАГОДЫ 78-Х УГОДКАЎ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Сёньня беларускія прыхвасьні крамлёўскіх уладароў імкнуцца любой цаной утрымаць уладу. Яны згодныя прадаць нашую краіну, кінуць лёсы нашых дзяцей і ўнукаў ахвярамі Расейскай імперыі.

Усё гэта робіцца толькі дзеля таго, каб захапіць нашу зямлю, каб забясьпечыць расейскае войска новым гарматным мясам ва ўсіх цяперашніх і наступных войнах імперыі.

Толькі незалежнасьць Беларусі можа абараніць нас ад гэтай навалы.

Сваімі антыдзяржаўнымі дзеяньнямі Аляксандр Лукашэнка паставіў сябе па-за межамі Канстытуцыі і страціў права быць прэзідэнтам незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Мы, удзельнікі мітынгу ў гонар 78-х угодкаў Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, патрабуем ад Вярхоўнага Савету, ад ураду, ад узброеных сілаў, міліцыі і ўнутраных войскаў Беларусі дакладна выконваць Канстытуцыю і бараніць незалежнасьць Рэспублікі Беларусь. Мы патрабуем не дапусьціць зьдзяйсьненьня авантурных планаў здачы нашай дзяржавы. І хай усе, хто спрычыніцца да зьнішчэньня незалежнасьці краіны, ведаюць: прыйдзе час адказнасьці па ўсёй строгасьці Закона і народнага суда.

Жыве Беларусь!

**Прынята 24 сакавіка 1996 году аднагалосна на мітынгу, дзе прысутнічала больш 50 000 чалавек, г.Менск.**

## АБ'ЯДНАНЬНЕ - ШЛЯХ У НІКУДЫ

**25 сакавіка, у дзень 78-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі ў Горадні адбыўся мітынг у абарону Канстытуцыі. На запрашэньне Гарадзенскай Рады Беларускага Народнага Фронту адгукнулася паўтары тысячы гараджан.**

«Луку - у адстаўку», «НЕ - палітыцы дзяржаўнай здрады», «ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!» - з такімі плакатамі выйшлі гарадзенцы на гэты мітынг. Выступоўцы асноўную ўвагу засяродзілі на падзеях апошніх дзён, зьвязаных з «объединительным зудом» у Прэзідэнта. Сяргей Мальчык, Кастусь Жынь, Аляксандр Міхальчык, Алесь Астроўскі гаварылі, што так званы Саюз не нясе ніякіх эканамічных дывідэндаў для Беларусі. А вось страты чакаюцца вельмі значныя.



Найперш - канчаткова будзе «пахавана» магчымасьць выкарыстоўваць выгодная геаграфічнае становішча краіны. Нас чакаюць паборы на ўтрыманьне тысячаў новых чыноўнікаў, якія ўтвораць «надгосударственные органы» і рашэньні якіх будуць абавязковымі да выкананьня. Мы ня будзем гаспадарамі свайго лёсу, мы ня будзем распараджацца вынікамі сваёй працы. Як краіне з абмежаваным суверэнітэтам, у нас ня будзе магчымасьці ўступіць у структуры Эўрапейскага Саюзу, што яшчэ больш узмоцніць наш і без таго надта ж аднабокі «усходні вектар»...

Падобных прыкладаў прыводзілася шмат. А выснова адна - паляпшэньня жыцьця ў выніку падобнай інтэграцыі чакаць не даводзіцца. Заводы як стаялі - так і будуць стаяць. Сабекошт кілаграма мяса як быў у тры разы болей, чым на захадзе, так і будзе ... А вось перспектыва выбрацца з гэтай прорвы зьнікне.

На мітынгу было адзначана, што ў выніку



такога аб'яднаньня мы аўтаматычна пераўтвараемся ў патэнцыяльны палігон баявых дзеяньняў. Сілы супрацьпаветранай абароны Беларусі ўжо нясуць сумеснае дзяжурства з расейцамі.

- Нашы салдаты ў Чачню не паедуць, - заяўляе Лукашэнка. - Не паедуць, таму што, калі такое рашэньне будзе прынята кіраўніцтвам новага Саюзу, то я яго ня выканаю.

Навошта тады агарод гарадзіць? Дзеля нездаровых амбіцыяў Лукашэнкі? Дзеля таго, каб адцягнуць увагу людзей ад злабадзённых праблемаў, якія не вырашаюцца? Ці гэта сьвядомая дзейнасьць, якая кваліфікуецца як дзяржаўная здрада?

Удзельнікі мітынгу аднагалосна запатрабавалі адстаўкі Лукашэнкі і заклікалі гарадзенцаў прыняць удзел у акцыях пратэсту супраць падпісаньня 2 красавіка ў Маскве злачынных дамоваў.

**Ул.інф.**

**Фота У.УЛАДАСЕВІЧА.**

## «ИНОГО НЕТ У НАС ПУТИ» - НА ШЫІ Ў НАС ВЯРОЎКА

**У сераду Вярхоўны Савет заняўся разглядам пытаньня ініцыятываў Аляксандра Лукашэнкі па аб'яднаньню з Расеяй.**

На вочы народных абраньнікаў зьявіўся Сам. Аляксандр Рыгоравіч у тэмпе алегра выканаў свой традыцыйны «танец з шаблямі», затаўраваўшы ў соценны, а мо і ў тысячны раз магутных зуброў - Краўчука і Шушкевіча. Аказваецца, апошнія блакавалі ўсе высакародныя памкненьні Ельцына па рэалізацыі белавежскіх пагадненьняў. Прэзідэнт з дакорам паапеляваў да дэпутатаў: маўляў, колькі можна выкарыстоўваць матухну Расею ў якасьці дойнай каровы. Паўшчуваўшы нахабных беларусаў-утрыманцаў, «усенародны» перайшоў да «представителей отдельных посольств».

Падобна на тое, што хутка ў нашай краіне зьявяцца персоны «нон грата». Лукашэнка запэўніў, што «ни один танк или самолёт не перелетит до Москвы через Беларусь». Абвясьціўшы, што саюзу з Масквою альтэрнатывы няма, прэзідэнт патэтычна рэзюмаваў: «Иного нету нас пути!» А ў якасьці лагічнага ды эканамічнага абгрунтаваньня гэтай тэзы прывёў бясспрэчны аргумант: «Белорусов в России очень любят».

Яго можна зразумець. Масква, так доўга выяўляўшы пэўную «фрыгіднасьць», нарэшце «узбудзілася» і гатова авалодаць малодшым братам. Аднак, даўно вядома: "любовь приходит и уходит, а кушать хочется всегда".

Прадстаўнікі дэмакратычнай апазіцыі, паставіўшыя вострыя пытаньні, атрымалі чыста «тэнісныя» адказы. Здаровыя галасы, як заўжды, засталіся воклічамі ў пустэльні. На запыт дэпутаткі Абрамавай, што будзе рабіць галава дзяржавы ў выпадку нератыфікацыі заканадаўчым ворганам пагадненьняў, Лукашэнка запрапанаваў адказаць кулуарна, але заўважыў, што ня мае на гэты конт аніякіх сумневаў.

Вярхоўны Савет блаславіў Вялікага Інтэгратара на «сьвятое дзела». Аднак выпрацаваць адпаведную пастанову дэпутаты так і не здолелі (на вячэрнім паседжаньні налічылі ўсяго сотню парламантарыяў), адклаўшы «справу жыцьця» да пятніцы. Зрэшты, чаго яшчэ можна чакаць ад камуністаў і «недарэцкіх»? Беларусь жа ў гэтай сітуацыі нагадвае чалавека, якога загепалі вяроўкай, а ён замест таго, каб вызваляцца ад пятлі, імкнецца вытаўкнуць з-пад сябе табурэтку.

**Марцін КАЛАМУТНЫ.**

## АДКРЫТЫ ЛІСТ

### Прэзідэнту Расейскай Федэрацыі Б.М.Ельцыну

Мы, прадстаўнікі дэмакратычных партыяў і грамадзкіх арганізацый суверэннай дзяржавы, Рэспублікі Беларусь, бярэм на сябе адказнасьць заявіць наступнае.

Груба парушыўшы Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, прэзідэнт А.Лукашэнка пайшоў на прамую здраду інтарэсам беларускага народа. Адвольна трактуючы вынікі рэферэндуму 1995 году А.Лукашэнка выдае свае амбіцыёзныя планы за волю народу.

Спадар Прэзідэнт!

А.Лукашэнка - гэта яшчэ ня весь беларускі народ.

Вы, чалавек, які абвясьціў асноваю сваёй перадвыбарчай кампаніі антыкамунізм і прыхільнасьць да дэмакратычных прынцыпаў, зьбіраецеся падпісаць дагавор з палітыкам, які адрадзіў на Беларусі камуністычныя сімвалы, аўтарытарны парадак, які растаптаў свабоду друку.

Праявіце палітычную сталасьць і дальнабачнасьць. Спыніце падпісаньне беларускарасейскіх дакумантаў, якія супярэчаць Канстытуцыі Беларусі і волі нашага народу.

У іншым выпадку адказнасьць за наступствы пакладзецца і на расейскі бок. Такі курс прэзідэнта А.Лукашэнкі можа прывесьці да супрацьстаяньня брацкіх народаў і абвастрэньня палітычнай сітуацыі.

Беларусь і Расея - суседнія дзяржавы, якім наканавана мець добрасуседзкія адносіны.

Дэмакратычныя палітычныя партыі Беларусі і грамадзкія арганізацыі, падпісаўшыя дадзены Зварот, пакідаюць за сабой права абараняць незалежнасьць і суверэнітэт сваёй Радзімы ўсімі даступнымі сродкамі.

**АГП, БНФ, Партыя жанчын "Надзея", Партыя здаровага сэнсу, Партыя зялёных, Сялянская партыя, БХДЗ, БСДГ, Свабодны прафсаюз. Усяго 15 партыяў.**

## БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ НАД МАСТАМІ

25 сакавіка над будынкам універмагу ў Мастах узьвіўся бел-чырвона-белы сьцяг з нагоды ўгодкаў БНР. Мала каму з мастаўчан давялося пабачыць яго, бо невядомы «добразычлівец» пабачыў такую абразу і «прасігналіў» у ворганы. У сем гадзін раніцы на месца здарэньня выехаў нарад міліцыі. Сяржант К. (ня будзем называць яго імя, не варты ён таго) дзейнічаў рашуча і сімвал нашай дзяржаўнасьці хутка быў зьняты.

**Максім ТУТОВІЧ.**

## МІТЫНГ У ЛІДЗЕ

**23 сакавіка ў Лідзе на стадыёне «Абутнік» адбыўся мітынг, прысьвечаны 78-м угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі. Мітынг прыняў рэзалюцыю, у якой, у прыватнасьці, гаворыцца:**

«...Мы патрабуем ад Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь выступіць гарантам незалежнасьці краіны.

Мы асуджаем здрадніцкую палітыку Лукашэнкі, накіраваную на ліквідацыю беларускай дзяржаўнасьці.

Мы патрабуем ад Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь узбудзіць крымінальную справу супраць грамадзяніна Лукашэнкі за здраду Радзіме».

**Станіслаў СУДНІК.**

## МАСКВІЧЫ ТАКСАМА ПРАТЭСТУЮЦЬ

**25 сакавіка, у дзень 78-ае гадавіны абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі ў Маскве адбылося пікетаваньне амбасады Рэспублікі Беларусь у Расеі. Маскоускія беларусы сабраліся у гэты дзень, каб выказаць свае адносіны да дыктатарскай палітыкі, якая праводзіцца на Беларусі Лукашэнкам.**

Па словах міліцыянтаў, адказныя асобы з ліку беларускіх дыпламатаў папярэдзілі, што магчымы штурм амбасады сіламі беларускіх нацыяналістаў, якія прыйдуць на пікет. Таму ужо за гадзіну да пачатку была заблакавана частка вуліцы насупраць будынка амбасады, а сілаў правааховы было ня меней, як саміх удзельнікаў. Да таго яшчэ за рагом вуліцы стаяў аутамабіль і рэзервная група АМАПа.

«Жыве Беларусь без Лукашэнкі!», «Лукашэнка - духоўны Чарнобыль Беларусі!», «Не новай імперыі!», «Не лукашызму-фашызму-камунізму!», «Генацыд беларускага народу прадоўжваецца», «Лукашэнка! Ты будзеш праклятым нашчадкамі!». Гэта толькі частка тых плакатаў і лозунгаў, якія былі разгорнутыя на пікеце. Шмат бел-чырвона-белых сьцягоў лунала над галовамі.

Напярэдадні і раніцай гэтага ж дня неаднаразова гучалі паведамленьні аб плануемым пікеце па расейскай і маскоўскай радыёпраграмах, а таксама па першаму тэлеканалу (што было даволі нечакана). А сам пікет выклікаў вялікую цікавасьць у шэрага буйнейшых расейскіх тэлекампаніяў (уключаючы РТР і НТВ). Рэпартажы аб гэтай акцыі былі паказаны практычна усімі расейскімі каналамі (акрамя першага), маскоўскімі каналамі а таксама замежнымі (у тым ліку і CNN). Такім чынам, рэзананс аказаўся даволі вялікім. Людзі ва ўсім сьвеце даведаліся, што беларусы паусюль пратэстуюць супраць намаганьняў Лукашэнкі зьнішчыць Беларусь. Яшчэ раз антынародну кіраўніцтву паказалі, што мы ніколі не згадзімся з яго здрадніцкай палітыкай і будзем абараняць сваю незалежнасьць усімі сродкамі. Пакуль жывыя ёсьць на Зямлі беларусы, наша справа будзе жыць.

Увечары беларусы зноў сабраліся каб за сьвяточным сталом адзначыць Дзень Волі і пасьпяваць свае песьні.

**Аляксей Бука, сябра Кіруючай Рады Маскоўскага Таварыства Беларускае Культуры імя Ф.Скарыны, Сябра БНФ «Адраджэньне»**

**P.S.** Як стала вядома, акцыя пратэсту, падобная на маскоўскую, адбылася і ў Лондане.

## ПЛАТФОРМА ДА АБ'ЯДНАНЬНЯ: АНТЫКАМУНІЗМ, НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ, АПАЗІЦЫЙНАСЬЦЬ РЭЖЫМУ

У сувязі з паведамленьнямі ў сродках масавай інфармацыі, якія фармуюць у грамадзтве ўражаньне, што гарадзенскія філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады і Партыі народнай згоды гатовы, быццам бы, неадкладна зьліцца ў адзіную сацыял-дэмакратычную арганізацыю, Рада Гарадзенскай філіі БСДГ па даручэньню сходу філіі, распаўсюдзіла афіцыйную заяву, у якой, у прыватнасьці, гаворыцца, што:

«аб'яднаньне ўсіх палітычных партый сацыял-дэмакратычнай накіраванасьці ў адзіную сацыял-дэмакратычную партыю адпавядае памкненьням БСДГ і Гарадзенская філія Грамады будзе і надалей у межах сваёй статутнай кампетэнтнасьці прыкладаць намаганьні дзеля дасягненьня гэтай мэты ў бліжэйшай будучыні.

Адначасова мы лічым неабходным зазначыць наступнае:

1. Крок да аб'яднаньня павінны ўключаць адпаведныя захады нашых партнёраў па прававызначэньні структурнай арганізацыі сваіх партыяў у адпаведнасьць сучасным вымогам, а праграмаў - у адпаведнасьць агульнапрынятым нормам міжнароднай сацыял-дэмакратыі.

2. Аб'яднаньне з нашага пункту гледжаньня ўвогуле магчыма толькі пры гарантыі захаванасьці ў будучай аб'яднанай партыі трох прынцыповых палажэньняў:

- антыкамунізм і антыфашызм як неад'емная складная частка сацыял-дэмакратычнай ідэі наогул і як абсалютная неабходнасьць у сучасных умовах на Беларусі ў прыватнасьці;

- адданасьць ідэі беларускай дзяржаўнасьці і нацыянальна-культурнага адраджэньня;

- апазіцыйнасьць існуючаму цяпер на Беларусі рэжыму.»

Два першыя палажэньні, на думку грамадоўцаў, павінны быць уключаны ў праграму будучай аб'яднанай партыі, а апошняе - стаць зьместам палітычнай заявы аб'яднаўчага зьезду.

## ПРАПАНОВА, АД ЯКОЙ ВАРТА АДМОВІЦЦА

Днямі ў гарадзенскі аблвыканкам з Адміністрацыі Прэзідэнта паступіў факс, у якім старшыні аблвыканкаму Аляксандру Дубку «предлагается» (!) узначаліць дэлегацыю Гарадзеншчыны для ўдзелу ва ўрачыстасьцях, што адбудуцца 2 красавіка ў Маскве пад час падпісаньня Саюзнага дагавору паміж Беларусьсю і Расеяй. Група павінна скласьці 10 чалавек. Гэта - кіраўнікі гар- і райвыканкамаў, дырэктары буйных прадпрыемстваў ды іншыя «знатныя» людзі.

Некаторыя з прэтэндэнтаў у «залатую дзесятку» тэрмінова зьбіраюцца «захварэць» альбо яшчэ што-небудзь прыдумаць дзеля таго, каб ня стаць саўдзельнікамі ў плануемым злачынстве.

**Ул. інф.**

 









# У БАРАЦЬБЕ ПАМІЖ ДОМАШАМ і КАШАНКОВАЙ ПЕРАМОГ...КАРПУЦЬ!

**(Заканчэньe. Пачатак на стар.1)**

*...Я не разумею, чаму зараз, калі прэзідэнт праводзіць палітыку ўтварэньня саюзу з Расеяй, яго не азнаёмяць з сістэмай і арганізацяй работы актыўна функцыянуючых мясцовых прадстаўнічых органаў Расейскай Федэрацыі, працуючых самастойна і ва ўзаемадзеяньні з выканаўчымі органамі? Між тым, утварэньне саюзу прадугледжвае ідэнтычнасьць уладаў.*

*А як быць з тым, што наша краіна заявіла аб жаданьні быць членам Эўрапарламанту, адной з умоваў уступленьня ў які зьяўляецца наяўнасьць самастойных органаў мясцовага самакіраваньня, якімі ў нас зьяўляюцца Саветы дэпутатаў.*

*Магчыма, што яшчэ адной з прычын незадавальненьня мной зьяўляецца тое, што я, як сказаў на днях дэпутатам-членам фракцыі "Згода" ў Вярхоўным Савеце яе кіраўнік, ні разу ня выступіў на сесіі ў падтрымку Лукашэнкі. На гэта магу адказаць пытаньнем, а ці павінен я сябе паводзіць інакш?*

*Многія з вас памятаюць, як у свой час у гэтак званым антыкарупцыйным дакладзе Старшыні часовай камісіі Вярхоўнага Савету А.Лукашэнкі, з падачы гарадзенскіх «доброхотов» - барацьбітоў з карупцыяй, з зьняважлівым выразам называлася маё прозьвішча, пералічваліся «неблагавідныя» учынкі, якія ў будучым не знайшлі пацьвярджэньня. А ці трэба ўзгадваць, чаго каштавала мне разьвязаная пасьля выбараў прэзідэнта яго гарадзенскімі прыхільнікамі, членамі саюзу «Очищение» траўля ў мой адрас? І пасьля таго, калі ўсе ўпэўніліся, што домыслы і абвінавачаньні аказаліся няпраўдзівымі, у мяне ніхто не папрасіў прабачэньня.*

*Бацька «Очищения», усім вядомы дарадчык прэзідэнта Посахаў, сьпецыяльна прыязджаў у Горадню ў дзень правядзеньня выбараў 11 чэрвеня 1995 году і даручыў брыгадзе з 8 работнікаў Галоўнага упраўленьня Службы Кантроля прэзідэнта па Гарадзенскай вобласьці зрабіць усё магчымае, каб недапусьціць майго абраньня ў дэпутаты абласнога Савету ў Беліцкай выбарчай акрузе N 66.*

*Дык ці мае хто права папракаць мяне ў тым, што я ня кідаюся навыперадкі з бліжэйшымі паплечнікамі прэзідэнта, якія атрымоўваюць заробак з касы адміністрацыі, на абарону яго прапановаў?*

...Сканчаючы гэтую тэму, хачу выказаць свае спачуваньні за праяўленае маладушша, адсутнасьць сьмеласьці ўстаць на маю абарону ў крытычны момант маім былым паплечнікам па працы ў аблвыканкаме, некаторым старшыням гарадзкіх і раённых выканкамаў, а таксама тым, каго ў свой час павінен быў звольніць, але па-чалавечаму пашкадаваў. Калісьці вы кляліся мне ў адданасьці, а зараз праявілі сябе, як *самыя актыўныя барацьбіты супраць мяне. Я* хачу вам нагадаць, што жыцьцё - гэта як кола з няспынна зьмяняючымся становішчам узьлёту і падзеньня. Нязьменнымі павінны заставацца сумленнасьць, чалавечнасьць. Таму, калі вам, мае былыя сябры - сёньняшнія праціўнікі, стане цяжка, прыходзьце да мяне, я заўсёды знайду ў сабе сілы, каб дапамагчы вам, нягледзячы на тое, як вы зараз паступаеце са мной. Мне вас шкада, бо заўтра з вамі абыйдуцца так, як сёньня са мной, тым больш, што людзі без прынцыпаў нікому не патрэбныя.

*Зьвяртаючыся да Аляксандра Дубко, хачу сказаць наступнае. Вашая заява дэпутатам-аграрыям, што праз два-тры месяцы вызваленых старшыняў Савету ня будзе і таму ня мае сэнсу абіраць Домаша, выклікае пытаньне: навошта тады абіраць новага чалавека, зрываючы яго з пастаяннай працы? Да таго ж, як член пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савету, якая займаецца распрацоўкай законаў па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраваньню, і як сьпецыяліст-практык я заяўляю, што плануемыя зьмяненьні ў структуры мясцовых саветаў выглядаюць зусім ня так, як вы іх уяўляеце.*

*Ужо добра вядома, што адной з прычын вашага супрацьстаяньня мне зьяўляецца жаданьне бачыць на гэтай пасадзе больш слабога ва ўсіх адносінах чалавека, які не перашкаджаў бы вам працаваць. Але ці можаце вы мяне папракнуць у тым, што я гэта рабіў? Наадварот я, а не вы, некалькі разоў прапаноўваў вам сваю дапамогу і садзеяньне...*

*...Шаноўныя дэпутаты! З вашай дапамогай сёньня жадаюць расправіцца з чалавекам, неўгодным асобным дзеячам цяперашняй улады. Пры гэтым ніхто ня можа папракнуць мяне ў тым, што я рабіў даручаную мне справу недобрасумленна ці некваліфікавана. Ад вашага рашэньня залежыць будучыня нашага Савету, яго аўтарытэт, узровень удзелу і вагі ў жыцьці вобласьці, а таксама мой лёс, бо пасьля таго, што я сказаў, да мяне наўрадці будзе праяўлена міласэрнасьць з боку тых, хто сёньня знаходзіцца ля ўлады на розных яе ўзроўнях. Мы ўсе ў апошні час былі ня раз гэтаму сьведкамі».*

Дыскусія пасьля гэтага выступу яшчэ раз засьведчыла, што барацьба ідзе не паміж двума кандыдатамі, а паміж двума падыходамі да галоўнага пытаньня: ці будуць мець Саветы рэальную ўладу? У гэтай сувязі красамоўнымі выглядалі выступы дэпутатаў, агітаваўшых за сп.Кашанкову.

- Неабходна стаць на бок выканкаму (заўважце, не Кашанковай - аўт.) (дэпутат Швабко).

- Трэба ствараць умовы для спакойнай работы ў вобласьці (дэпутат Хворык).

Вынікі галасаваньня:

*«Ні разу так не хваляваўся, хіба як першы* раз да жонкі ў ложак лез», - скажа потым у кулуарах адзін з запрошаных на сэсію высокіх начальнікаў.

Што ж, для чыноўнікаў старой «закваскі», прывыкшых да таго, што ўсё заўсёды праходзіць ціха-мірна, згодна з выпрацаваным раней сюжэтам, відовішча сапраўды было надзвычай цікавае...

...Сямён Домаш - 27 галасоў за, 28 - супраць

...Лілія Кашанкова - 28 - за, 27 - супраць

Зноў ніхто не набірае неабходныя 29 дэпутацкіх галасоў. Тупік? Домаш прапануе Кашанковай і Дубко абмеркаваць падчас перапынку ўзьнікшую сітуацыю. Перамовы доўжацца паўтары гадзіны і сканчаюцца тым, што абодва кандыдаты... здымаюць свае кандыдатуры!

У чацьвёртым туры яўна стомленыя папярэднімі падзеямі дэпутаты амаль аднагалосна (54 - за, 2 - супраць) старшынём абласнога Савету абіраюць Аркадзя Карпуця, які да гэтага часу ўзначальваў райсавет у Бераставіцы. Цікава, што яго кандыдатуру дэпутаты вылучалі і ў папярэднім туры, але тады сп.Карпуць сваю кандыдатуру зьняў, заявіўшы з трыбуны, што «не жадае «пэцкаць рукі і сумленьне» у справе «здачы» Домаша.

Такім чынам, буйнейшы ў савецкай гісторыі Горадні палітычны скандал скончыўся кампрамісам. Але пытаньне, ці стане абласны Савет цацкай у руках прэзідэнцкай вертыкалі, пакуль застаецца адкрытым.

**Вітаўт РУДНІК.**

# АСЬЦЯРОЖНА! НЯЯКАСНЫЯ ПРАДУКТЫ

Па выніках праверкі ўстановаў гандлю, праведзенай упраўленьнем гандлю і грамадзкага харчаваньня аблвыканкаму, улады Горадні папярэдзілі кіраўнікоў шэрагу прадпрыемстваў за продаж тавараў з пратэрмінаванай датай рэалізацыі. Так, у краме СП «Гродсоуп» праверка выявіла 181 пляшку віна «Заслаўскага» з асадкам, непрыгодным да ўжываньня. У фірмовай краме малаказавода па вуліцы Дзяржынскага неякаснай прадукцыі (кава, гарчыца і г.д.) было зьнята з продажу на суму амаль у 2 млн. рублёў. Неякасная бельгійская кава была выкрыта і ў кулінарыі вытворчага аб'яднаньня «Радыёхваля», а ў буфеце інтэрнату завода аўтаагрэгатаў, што на прасьпекце Будаўнікоў, «засьвяціліся» пратэрмінаваныя цукеркі.

# КРАІНА ЎЗОРНАГА БЕЗДАРОЖЖА

У той час, калі 67 працэнтаў дарог вобласьці патрабуюць тэрміновага рамонту, гарадзенскія дарожнікі шукаюць працу на расейскім рынку!

А што рабіць, калі працаваць на суседа выгадней, чым на сябе? Расейскі рынак дае гарадзенскім дарожнікам каля паловы ўсіх прыбыткаў і дазваляе хоць неяк выжываць, бо ва ўласнай краіне рабіць гэта праблематычна. У параўнаньні з 1991 годам, у мінулым годзе на рамонт і будаўніцтва дарог дзяржава выдзеліла грошай на 51 працэнт менш. У выніку згубіў працу амаль кожны трэці работнік трэсту, а каля 30% ад усяго аб'ёму працы прыходзіцца выконваць у Расеі. Ды і там рынак сёньня можна заваяваць хіба што ў паўночных раёнах. Калі дзяржава і далей гэтак будзе ставіцца да дарожнікаў, зазначыў на нядаўняй нарадзе па капітальнаму будаўніцтву галоўны інжынер дарожна-будаўнічага трэста N6 сп.Шульга, то праз пару гадоў Беларусь з краіны транзітнай ператворыцца ў краіну ўзорнага бездарожжа.

# «НЁМАН» НА РАСЕЙСКАЙ ПОЎНАЧЫ

Трыццаць аўтобусаў лідзкага заводу «Нёман» зьявяцца ў хуткім часе на дарогах Нарыльска. З усіх аўтобусных заводаў былога Саюзу менавіта лідзкая прадукцыя аказалася найбольш прыстасаванай да палярных умоваў.

Папярэдняя дамова на пастаўку лідзкіх «Нёманаў» падпісана і з уладамі Магадана.

**В.АНІМУЦКІ.**

# КРАДУЦЬ КІЛАВАТЫ

За студзень-люты ў электрычную сетку Івейскага раёну было прададзена 6 мільёнаў 14 тысяч кілават/гадзін электраэнергіі. Выкарыстана яе, згодна з улікам, усяго 4 мільёны 811 тысяч кілават/гадзін. Штосьці можна сьпісаць на ўсушку і ўтруску. Астатняе проста скралі. Тым ня меньш за студзень-люты кантралёры склалі толькі 37 актаў за 71 тысячу 956 кілават/гадзін на суму 16 мільёнаў 412 тысяч рублёў. дзе астатняе?

# РЫНКАВЫ САЦЫЯЛІЗМ ПЕРАМАГАЕ

Першая вайна эпохі рынкавага сацыялізму пасьпяхова завяршылася ў Лідзе 20 сакавіка. Рынак у вобразе бабак з-пад універсаму ля фантана пацярпеў поўную паразу і разбегся. Шмат хто быў затрыманы і будзе аштрафаваны. Сацыялізм у вобразе мардаварота з міліцэйскаю дубінкай трохі пахадзіў па полі боя дый паехаў на пастарунак. Цішыня ля ўніверсаму. Разам усё гэта называецца рынкавым сацыялізмам.

**С.РУБАЛЬСКІ.**

# РЭДКАЯ ПТУШКА ДАЛЯЦІЦЬ ДА СТАЛІЦЫ

**Новую форму «паслугаў» прапануюць апошнімі днямі супрацоўнікі дарожнай аўтаінсьпекцыі. На шашы Горадня-Менск бесцырымонна спыняюцца легкавікі, а кіроўцам прапаноўваецца прайсьці ў «буду». Там у вас ня толькі праверацъ дакуманты , але і высьвятляць накірунак (!) і мэту(!!!) падарожжа. На зваротным шляху працэдура можа паўтарыцца.**

Зразумела і каню, што гэтая ініцыятыва зыходзіць не ад службаў ДАІ. Падаецца, што неўзабаве (у мірны час) нашае грамадзтва чакае суцэльная «каменданцкая гадзіна». Спакваля аўтарытарны рэжым перарастае ў таталітарны. Так што не зьдзіўляйцеся, калі, напрыклад, пры пераходзе пляцу Леніна вам прыйдзецца зарэгістравацца.

**Рыгор Вострашабельскі.**

# ЧАРГОВЫ ПОДЗЬВІГ ПРЭЗІДЭНЦКАЙ СЛУЖБЫ

**Галоўнае ўпраўленьне службы кантроля прэзідэнта па Гарадзенскай вобласьці правяло праверку на выкананьне ўказу Лукашэнкі ад 20 сакавіка 1995 году «Аб ўвядзеньні маркіроўкі ўвозімых у Беларусь алкагольных і тытунёвых вырабаў». З 25 правераных у Горадні, Слоніме і Карэліцкім раёне гандлёвых кропак парушэньні выяўлены ў трох. Пра гэта гаворыцца ў дакладной запісцы гарадзенскай службы на імя начальніка дзяржгандлынсьпекцыі службы кантроля прэзідэнта А.Ганчарыка.**

Да адміністрацыйнай адказнасьці прыцягнута 5 чалавек, на якіх накладзены штраф у памеры 2,6 млн. рублёў і канфіскавана тавараў на 926 тысяч рублёў. На падставе гэтай запіскі гарадзенскі выканкам прыцягнуў да дысцыплінарнай адказнасьці дырэктара кавярні «Зара» сп.Дарошчыка. У гэтай кавярні канфіскаваны немаркіраваныя алкагольныя напоі і цыгарэты на суму 674 тысячы рублёў.

**В.Л.**

# ОРДЭН ЛЕНІНА ЗА ПАЎТАРА МІЛЬЁНА ДОЛАРАЎ

**Газета «Рэспубліка» ад 5 сакавіка 1996 году расказала пра подзьвіг двух беларускіх вайскоўцаў, якія распрацавалі тэхналогію перапрацоўкі аднаго з кампанентаў вадкага ракетнага паліва - акісьляльніку тыпа «Меланж» у азотнае ўгнаеньне. Аўтар не называе месца, дзе подзьвіг быў зьдзейсьнены, але ацэньвае яго як мінімум на ордэн Леніна, дакладней, на два ордэны. Нам давялося пабываць на месцы зьдзяйсьненьня подзьвігу, а менавіта, у вёсцы Сялец Лідзкага раёну, і больш уважліва прыгледзецца да сітуацыі.**

Так, сапраўды, ля вёскі Сялец за плотам вайсковай базы была сабрана досьледная ўстаноўка па перапрацоўцы меланжу, які ўяўляе сабой высокаканцэнтраваную (96-98 працэнтаў) азотную кіслату з дабаўкамі вокіслаў азоту, у азотнае ўгнаеньне тыпу $CaNO_3$. Гэтае ўгнаеньне ў галоўным экалагічным ведамстве вобласьці называлі яшчэ «шведзкай вапнай». Работы вяліся настолькі таемна, што старшыня Лідзкага райвыканкаму, дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Антон Блюднік даведаўся пра іх, калі тыя былі практычна скончаныя і былі ўжо напрацаваны першыя тоны ўгнаеньня.

Таемнасьць выклікала абгрунтаваную занепакоенасьць мясцовага насельніцтва. «Добрыя справы за так шчыльна зачыненымі дзьвярыма ня робяцца», - вырашыў народ і кінуўся зьбіраць подпісы супраць заводу. Дык што ж хаваюць у Сяльцы?

На тэрыторыі Беларусі былі дзесяткі такіх базаў, дзе захоўвалася ракетнае паліва для расейскіх ракетаў. У Панямоньні можна назваць яшчэ Масты, Жалудок. На гэтых базах захоўвалася і захоўваецца сотні тысяч, а мо і мільёны тон акісьляльніку і паліва. У Сяльцы, як вынікае з публікацыі, знаходзіцца недзе каля 15 тысяч тон меланжу. Каманьдзір часткі маёр Лук'яненка называе, вядома не карэспандэнту «ПАГОНІ», лічбу ў 5-6 разоў большую.

Ёмкасьці, у якіх захоўваецца меланж былі пастаўлены тут у 60-я гады, таму ні пра якую перавозку казаць нельга. Безумоўна, перапрацоўка -выйсьце. Гэта зразумелі нават амерыканцы, якія восеньню наведалі Сялец і выдзелілі на гэтую справу 1,5 мільёны долараў. І вось ад гэтага моманту і пачынаецца таемнасьць. Куды пайшлі грошы, на якія можна было б купіць прамысловую ўстаноўку і скарыстоўваючы прыродазьберагальныя тэхналогіі перапрацаваць небясьпечны пасаг, невядома. Заміж долараў зьявіліся два афіцэры і пачалі зарабляць свае ордэны Леніна.

Міністэрства экалогіі дало дазвол на мантаж досьледнай устаноўкі. Але ці ўсё яны ўлічылі? Мы мусім зазначыць, што большая частка маланжу ў Сяльцы - гэта ўжо адпрацаваны, дакладней, той, які пэўны час адбыў у баках стратэгічных ракет у тым ліку і ядзерных. Акрамя набытай радыёактыўнасьці, ён утрымлівае шмат вокісаў розных металаў. Разам з тым, хімічная формула рэакцыі прадугледжвае да 20 працэнтаў адкідаў, у якія і пойдуць гэтыя металы і вокісы. Куды будуць дзяваць гэтыя адыходы? Амерыканскія тэхналогіі прадугледжваюць іх утылізацыю. Нашы? А над чым тут думаць - Нёман побач!

Узьнікае і яшчэ шэраг праблемаў. Вайскоўцы тут спланавалі перапрацоўку меланжу з усёй Беларусі. Ёсьць інфармацыя, што плануецца і завоз яго з Расеі. А гэта ўжо называецца пераўтварэньне Панямоньня ў сусьветны сьметнік. Не апошнюю ролю іграе і праблема бясьпекі. Каб разумець яе правільна, трэба бачыць дзеяньне меланжу. У войсках быў выпадак, калі жаўнера абліл і акісьляльнікам. Жаўнер зьнік. Засталася толькі бляха ад дзягі. Адзін глыбокі ўдых меланжу сьмяротны - адбываецца ацёк лёгкіх. Калі ўзяць сярэднюю лічбу запасаў меланжу ў Сяльцы і ўявіць, што адбылася аварыя і ён узьляцеў у паветра, то наступствы будуць страшней за чарнобыльскія.

Таму, калі весьці гаворку пра ордэны Леніна, то выратавальнікам ад такой бяды іх абавязкова трэба даваць. Калі ня ордэны, то хаця б па медалю Францыска Скарыны, якім зараз у Беларусі ўзнагароджваюць усіх - ад акадэміка да старшыні калгасу. Але лепей ўсё ж адшукаць у «сусеках Радзімы» тыя паўтары мільёны долараў, набыць мабільную ўстаноўку з замкнёным цыклам і паступовa перапрацоўваць акісьляльнік на базах яго сталага захоўваньня, нікуды яго ня возячы і ня робячы з гэтага вялікай таямніцы.

**Станіслаў СУДНІК.**

 

# ПАЛІТЫЦЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ ЗДРАДЫ – БАЛТА-ЧАРНАМОРСКУЮ АЛЬТЭРНАТЫВУ

**Як ужо паведамляла «ПАГОНЯ», 22-23 сакавіка ў Менску працаваў III Кангрэс Лігі дэмакратычных партыяў дзяржаў Балта-Чарнаморскага рэгіёну.**

**Сёньня вашай увазе прапаноўваем тэксты выніковых дакументаў, якія прыняты гэтым прадстаўнічым форумам.**

***Аб палітыцы Расеі ў дачыненьні краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёну***

Сучасная палітыка Расеі да дзяржаў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёну характарызуецца імкненьнем забясьпечыць геапалітычнае, эканамічнае і ваеннае дамінаваньне гэтай краіны ў рэгіёнах. Для дасягненьня геапалітычных мэтаў выкарыстоўваюцца сыравінная і іншыя эканамічныя залежнасьці краін рэгіёну ад Расеі, іх унутрыпалітычныя праблемы, існаваньне манапольнай інфармацыйнай прасторы, застаўшайся ад савецкай эпохі, наяўнасьць расейскіх войскаў на тэрыторыі незалежных дзяржаў рэгіёну, наяўнасьць расейскай меншасьці ў постсавецкіх дзяржавах і г.д. Характэрна, што асноўная палітычная сіла Расеі, нягледзячы на ўнутрыпалітычныя адрозьненьні, выходзіць з неабходнасьці забясьпечыць геапалітычнае дамінаваньне гэтай краіны на постсавецкай і ўсходне-эўрапейскай прасторах.

Спробы Расеі аднавіць свой уплыў у рэгіёнах накіраваны на краіны Балтыі і Польшчу (калінінградзкая праблема, імкненьне не дапусьціць гэтыя краіны ў НАТА), на Украіну (эканамічны шантаж, правакаваньне этнічных праблем), на Балканы (розыгрыш этнаканфесійнай карты).

Паказальным прыкладам вынікаў гэтай палітыкі стала сучаснае становішча Беларусі, якая заўсёды зьяўлялася аб'ектам геапалітычных памкненьняў расейскіх імперскіх сіл. Пад прыкрыцьцём абяцаных «благ», якія нібыта павінна прынесьці «інтэграцыя» з Расеяй, у краіне спынены эканамічныя рэформы, падарвана фінансава-крэдытная сістэма. Практычна ліквідавана беларуска-расейская мяжа. Пад кантроль расейскіх структур пераходзіць транзіт, нафтахімічны комплекс, энэргетычная і прамысловая інфраструктура. Прамаскоўскія памкненьні беларускага кіраўніцтва выкарыстоўваюцца для супрацьстаяньня інтарэсам іншых суседніх з Расеяй краін, для палітыкі «разделяй и властвуй». Існуе небясьпека фактычнай і фармальнай інкарпарацыі Беларусі Расеяй, што рэзка зьмяніла б геапалітычную сітуацыю Усходняй Эўропы і ў цэлым на кантыненьце, прывяло б да росту напругі, да непасрэднай аналагічнай небясьпекі для суседніх краін.

У інтарэсах лёсу дэмакратыі ў рэгіёне Цэнтральна-Усходняй Эўропы -спыніць новую расейскую экспансію, рашуча выступіць у падтрымку незалежнасьці Беларусі, супраць адраджэньня ў рэгіёне якіх бы там ні было геапалітычных утварэньняў, ствараемых шляхам гвалту і шантажу. Нельга дапусьціць адраджэньня імперыі, якая ўжо прынесла незьлічоныя пакуты ўсім народам нашага рэгіёну.

***Аб ваенных дзеяньнях Расеі супраць чачэнскага народу***

Больш году Расея вядзе неабвешчаную каланіяльную вайну супраць чачэнскай рэспублікі Ічкерыя, дзе ліеюца кроў, гінуць дзесяткі тысяч людзей. Трагедыя чачэнскага народу яшчэ раз пацьвярджае, што для ажыцьцяўленьня сваіх імперскіх памкненьняў, захаваньня ўлады, захопу чужых тэрыторый і чужой уласнасьці расейска-імперскія сілы пойдуць на любыя злачынствы. Асаблівы цынізм гэтай вайне надае тое, што за ёй стаяць інтарэсы расейскага нафтапрамысловага комплексу.

Мы асуджаем тэрарызм у любых яго праявах. Але дзеяньне расейскай ваеншчыны ў Ічкерыі, выклікаючае масавыя парушэньні правоў чалавека, зьяўляецца дзяржаўным тэрарызмам і генацыдам цэлага народу. Такія дзеяньні ёсьць нішто іншае, як злачынства супраць чалавецтва. Дзяржавы Балта-Чарнаморскага рэгіёну на сваім горкім гістарычным досьведзе ведаюць, што такое імперская палітыка. Таму мы заяўляем аб сваёй салідарнасьці з гераічнай барацьбой чачэнскага народу за сваё існаваньне і сваю незалежнасьць. Мы заклікаем міжнародную супольнасьць, усё цывілізаванае чалавецтва накіраваць свае сумесныя высілкі на спыненьне гэтай ганебнай вайны.

Мы жадаем чачэнскаму народу перамогі ў барацьбе за незалежнасьць сваёй дзяржавы.

***Аб геапалітычнай сітуацыі Балта-Чарнаморскага рэгіёну***

Геапалітычная сітуацыя ў Балта-Чарнаморскім рэгіёне сёньня характарызуецца рэзкім узмацненьнем расейскага ціску на суседнія дзяржавы. У палітычным плане імперскія амбіцыі і рэваншысцкія настроі Крамля афарміліся ў выглядзе рашэньня Дзярждумы Расеі аб дэнансацыі пагадненьняў, падпісаных у Віскулях, і імкненьнем расейскага кіраўніцтва анэксаваць Беларусь пад выглядам інтэграцыі.

Па-ранейшаму на Беларусі і Украіне дамінуюць расейскія сродкі масавай інфармацыі, а прарасейска настроеным лоббі блакуецца разьвіцьцё нацыянальных культур. Эканамічная экспансія на Беларусь прывяла да ліквідацыі межаў з Расеяй і расейскага мытнага кантроля на тэрыторыі Беларусі. У выніку стварэньня фінансава-прамысловых груп Беларусь-Расея значная частка паліўна-энергетычнага комплексу Беларусі перайшла пад кантроль Расеі. Былая метраполія актыўна імкнецца захапіць прадпрыемствы інфраструктуры з мэтай усталяваньня свайго кантроля на тэрыторыі суверэнных дзяржаў. Расейскія ваенныя базы і ядзерныя ракеты ўсё яшчэ знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, утрымліваючы яе на каланіяльным становішчы і ствараючы ваенную пагрозу суседнім дзяржавам. Беларусь стала бясплатным ядзерным апорным пунктам Расеі ў ваенных адносінах і бяспошлінным транзітным калідорам - у эканамічных. Палітычны і эканамічны стан Беларусі не сумяшчаюцца ў многіх асьпектах з разуменьнем статусу вольнай і незалежнай дзяржавы. Нарастаючая агрэсіўная актыўнасьць Расеі ў рэгіёне аб'ектыўна прымушае дзяржавы Міжмор'я шукаць падтрымку і гарантыі бясьпекі на Захадзе. У гэтых умовах супрацоўніцтва з НАТА зьяўляецца пакуль адзіным гарантам захаваньня дзяржаўнасьці краін Балта-Чарнаморскага рэгіёну. У гэтай сітуацыі ліга партый краін Міжмор'я лічыць сваім абавязкам ўплываць на ўрады з мэтай стварэньня Садружнасьці (кааліцыі) дзяржаў міжмор'я як гаранта незалежнасьці і стабільнасьці ў Эўропе. Кангрэс гатовы выступіць ініцыятарам першай міждзяржаўнай сустрэчы для гэтай мэты.

***Аб стварэньні агульнага рынку Міжмор'я***

Агульнасьць палітычных інтарэсаў краін Балта-Чарнаморскага рэгіёну складаецца перш за ўсё ў рэалізацыі ўзаемавыгадных сумесных эканамічных праграм. Стварэньне агульнага рынку мае мэту павышэньня эканамічнага ўзроўню краін Міжмор'я шляхам стварэньня спрыяльных умоваў для супрацоўніцтва суб'ектаў гаспадараньня кожнай краіны і рашэньня сацыяльных праблем. Функцыянаваньне агульны рынак ствараецца на трох узроўнях: рынак тавараў, рынак працы і рынак капіталу. Стварэньне агульнага рынку тавараў прадугледжвае пасьлядоўную адмову ад эканамічных і іншых перашкод вольнаму тавараабароту паміж краінамі спачатку ў межах выдзеленых квот, а затым і цалкам. Агульны рынак працы вырашае праблему занятасьці і сацыяльнага забесьпячэньня грамадзян Міжмор'я. Важнейшае значэньне для стварэньня эканамічнай супольнасьці мае функцыянаваньне рынку капіталаў, сумеснымі намаганьнямі накіраванае на пераадоленьне перашкод у перапоку капіталаў, распрацоўка і стварэньне сумесных інвестыцыйных праектаў (будаўніцтва нафта- і газаправодаў, тэлекамунікацыйных сістэм і г.д.), якія ініцыіруюцца на міждзяржаўным узроўні з прыцягненьнем недзяржаўных крыніц фінансаваньня. Краіны Міжмор'я могуць стаць выгадным аб'ектам інвеставаньня ня толькі эўрапейскага, але і сусьветнага значэньня.

Палітычныя працэсы, якія адбываюцца перш за ўсё на Усходзе, дзе пануе мадэль, блізкая да большасьці краін Міжмор'я, разьвіцьцё падзей тоіць у сабе небясьпеку страты незалежнасьці краін рэгіёну, спрыяе пошуку аб'ядноўваючых фактараў з Захадам. Але аграмадная пропасьць, якая стварылася паміж узроўнем разьвіцьця эканомік краін Міжмор'я і краін захаду, стварае аб'ектыўныя ўмовы для ініцыяваньня інтэграцыйных працэсаў краін рэгіёну.

Эканамічныя перавагі інтэграцыі краін Міжмор'я павінны найперш падмацоўвацца аб'ядноўчымі матывамі для сумеснага супрацьстаяньня эканамічнай і палітычнай экспансіі з Усходу. Кангрэс падкрэсьлівае неабходнасьць распрацоўкі праграмы стварэньня агульнага рынку Міжмор'я, як важнейшую задачу эканамічнай інтэграцыі і лічыць неабходным пастаноўку задачы стварэньня агульнага рынку ў якасьці доўгатэрміновай праграмы дзеяньня.

***Захаваньне правоў чалавека на Беларусі***

Палітыка, праводзімая прэзідэнтам Беларусі А.Лукашэнкам накіравана на ўціск і нават ліквідацыю правоў чалавека, гарантаваных Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека і міжнароднымі пагадненьнямі, да якіх далучылася Беларусь. Паказальным прыкладам такой палітыкі зьявілася зьбіцьцё 12 красавіка 1995 году ў зале парламанту сьпецыяльным ваенізаваным падразьдзяленьнем дэпутатаў Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, якія выказалі пратэст у дачыненьні да антыканстытуцыйных дзеяньняў прэзідэнта. Пракуратура Беларусі нічога не зрабіла для пакараньня вінаватых. Былыя дэпутаты Апазіцыі пасьля спыненьня паўнамоцтваў прасьледуюцца.

Прэзідэнт А.Лукашэнка не хавае, што ў дачыненьні палітычных апанентаў выкарыстоўвае метады палітычнага вышуку. Нягледзячы на тое, што Канстытуцыя гарантуе грамадзянам свабоду мітынгаў, дэманстрацый і пікетаваньня, у дачыненьні арганізатараў і ўдзельнікаў такіх мерапрыемстваў - актывістаў дэмакратычных партый - ужываюцца сілавыя метады і судовыя прасьледаваньні. Разам з тым прадстаўнікам шавіністычных камуністычных арганізацый дадзена поўная свабода дзеяньня. Ігнаруючы канстытуцыйнае палажэньне права грамадзян на свабоду слова і атрыманьня інфрмацыі, Адміністрацыя прэзідэнта праводзіць палітыку ідэалагічнага і эканамічнага ціску на прэсу. Некаторыя незалежныя выданьні вымушаны друкавацца за мяжой. Тэлебачаньне і радыё знаходзяцца пад поўным кантролем выканаўчай улады. Дэмакратычныя партыі ня маюць доступу да дзяржаўных электронных сродкаў масавай інфармацыі. Сваім распараджэньнем А.Лукашэнка спыніў рэгістрацыю незалежных СМІ.

Такая палітыка ў галіне захаваньня правоў чалавека спрые ўстанаўленьню на Беларусі таталітарнага рэжыму, што можа прадстаўляць істотную пагрозу дэмакратыі ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Эўропы.

***Заява Лігі дэмакратычных партый дзяржаў Балта-Чарнаморскага рэгіёну***

Імкненьне расейскіх палітыкаў зьнішчыць незалежнасьць іншых нацый і дзяржаў нельга апраўдаць ніякай барацьбой за ўладу і ніякімі прынцыпамі. Гэта парушэньне фундаментальнага права народу - права на самавызначэньне, свабоду і нацыянальную дзяржаўнасьць, гэта грубае ўмяшаньне адной дзяржавы ў справы іншай.

Планы палітыкаў Расеі і іх прыхільнікаў у Беларусі ліквідаваць незалежнасьць і дзяржаўнасьць гэтай рэспублікі, выклікаюць у нас вялікую трывогу. Гэта - авантурныя планы, пагражаючыя цяжкімі наступствамі для дзяржаў рэгіёну і ўсёй Эўропы. Імперская экспансіянісцкая палітыка Расеі вядзе ня толькі да стратэгічнай ваеннай прысутнасьці гэтай краіны на межах Польшчы, Літвы, поўначы Украіны, але вяртае Эўропу да новага рэальнага супрацьстаяньня з Расейскай бюракратычнай Імперыяй. Гэта прывядзе да напругі ў краінах Усходняй Эўропы і дэстабілізацыі становішча ў гэтай частцы кантыненту.

Планы падаўленьня незалежнасьці Беларусі пад выглядам падпісаньня дамовы аб стварэньні «саюзнай дзяржавы» - ёсьць прамая пагроза незалежнасьці краіны і другіх краін Міжмор'я. У Беларусі фактычна ўстаноўлены аўтарытарны прарасейскі рэжым, падаўлены асноўныя правы чалавека, свабода сродкаў масавай інфармацыі, беларуская мова, культура. Вядзецца антынацыянальная прапаганда на дзяржаўным узроўні, праводзіцца агітацыя за вяртаньне ў СССР і г.д. Такі стан - вынік работы расейскіх сьпецслужбаў у Беларусі, неабвешчанай вайны Масквы супраць Беларускай дзяржавы. Размова ідзе аб паступовай анэксіі Беларусі Расеяй. Мы зьвяртаемся да ўсіх дэмакратычных партый краін Міжмор'я і ўсёй Эўропы з заклікам ўзьняць свой голас у абарону беларускай незалежнасьці, беларускай дзяржавы і беларускай дэмакратыі, якая адстойвае незалежнасьць сваёй краіны. Нельга зноў дапусьціць зьнявагі правоў чалавека ў цэнтры Эўропы.

***Рашэньне III Кангрэса лігі дэмакратычных партый краін Міжмор'я***

Кангрэс пастанавіў:

1. Стварыць каардынацыйны інфармацыйны камітэт для сістэматычнага абмену інфармацыяй паміж партыямі-ўдзельніцамі кангрэсу. З гэтай мэтай кожная група партый, прадстаўляючая адну дзяржаву, вылучае для гэтай працы аднаго чалавека. З гэтых людзей і сфармуецца камітэт. У склад каардынацыйна-інфармацыйнага камітэту ўключыць:

1) ад Украіны - Анатоля Шыбыко,
2) ад Беларусі - Станіслава Гусака,
3) ад Польшчы - Томаша Шчэпаньскага.

2. Правесьці IV кангрэс восеньню 1996 году. Аргкамітэту па правядзеньню гэтага кангрэсу зьвярнуцца да партый краін Балтыі з просьбай вызначыць месца правядзеньня кангрэсу ў адной з прыбалтыйскіх дзяржаў. Калі на працягу месяца адказу ня будзе, то месцам правядзеньня IV кангрэсу лічыць Украіну, г.Кіеў.

**Беларускі Народны Фронт, Аб'яднаная грамадзянская партыя Беларусі, Сялянская партыя Беларусі, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Канфедэрацыя незалежнай Польшчы, Рух «За Трэцюю Рэспубліку» (Польшча), Рух «За Рэспубліку» (Польшча), Украінская рэспубліканская партыя, Дэмкратычная партыя Украіны, Партыя Зялёных Украіны.**

**23 сакавіка 1996 году, г.Менск.**

